# Уводзіны

XVI ст. пачалося для Вялікага Княства Літоўскага (далей — ВКЛ) надзвычай драматычна. Яшчэ маці, жонкі і нявесты працягвалі аплакваць сваіх сыноў, мужоў і каханых, што паклалі свае галовы на Вядрошы 14 ліпеня 1500 г. або трапілі ў цяжкі маскоўскі палон, як на землі дзяржавы прыйшла новая бяда. Пачынаючы з восені 1500 г. не было бадай і года, каб тэрыторыя ВКЛ не станавілася аб'ектам нападу крымскіх татараў. Хан апошніх, Менглі-Гірэй, які дзейнічаў у хаўрусе з вялікім князем маскоўскім Іванам III, рэгулярна і мэтанакіравана нішчыў уладанні паўночнага суседа. У свядомасці наступных пакаленняў жыхароў ВКЛ другая палова кіравання вялікага князя літоўскага Аляксандра Казіміравіча (польскі кароль — з 1501 г.), на якую прыпалі няўдалая вайна 1500—1503 гг. з Маскоўскай дзяржавай і знішчальныя татарскія набегі 1500—1506 гг., засталася адной з самых трагічных старонак гісторыі дзяржавы.

Тым не менш, ваенна-палітычная гісторыя ВКЛ пачатку XVI ст. або нават адносіны з Крымскім ханствам гэтага часу не з'яўляюцца галоўным прадметам нашага даследавання. Гэта тэма мае багатую гістарыяграфію[1]. Прадметам даследавання з'яўляецца выключная гістарычная падзея, якая завяршала і, разам з тым, падсумоўвала перыяд панавання караля і вялікага князя Аляксандра Казіміравіча. Яна адбылася ўсяго за два тыдні да смерці гаспадара. Гэта перамога над крымскімі татарамі, якую ў бітве пад Клецкам 5 жніўня 1506 г. атрымаў фаварыт Аляксандра Казіміравіча, князь Міхаіл Львовіч Глінскі.

Зварот аўтара да тэмы Клецкай бітвы 1506 г. абумоўлены некалькімі фактарамі. Па-першае, перамога пад Клецкам з'яўляецца

[1] Карпов Г. Ф. История борьбы Московского государства с Польско-Литовским (1462—1508). Москва, 1867; Kolankowski L. Polska Jagiellonów: dzieje polityczne. Lwów, 1936; Kolankowski L. Problem Kryma w dziejach Jagiellońskich // Kwartalnik Historyczny. 1935. Z. 3; Papée F. Aleksander Jagiellończyk. Kraków, 1949; Koneczny F. Sprawy z Mengli-Girejem 1473—1504 // Ateneum Wileńskie. 1927. R. 4. Z. 12—13; Dundulis B. Lietuvos užsienio politika 16 a. Vilnius, 1971; Кананoвіч У. Дыпламатыя Вялікага Княства Літоўскага ў 1480 — першай чвэрці XVI ст. (Адносіны з Вялікім Княствам Маскоўскім і Крымскім ханствам). Дысертацыя на атрыманне вучонай ступені кандыдата гістарычных навук. Мінск, 1997.

адной з самых знакамітых ва ўсёй вайсковай гісторыі ВКЛ[2]. Клецкая бітва з'яўляецца адным з месцаў памяці (lieux de mémoire) у сённяшняй беларускай гістарыяграфіі. Тым не менш, яна дагэтуль усё яшчэ знаходзіцца ў цені іншых перамог Ягелонаў: Грунвальда, Крапіўны і інш. Па-другое, Клецкая бітва, хоць і вялася старымі спосабамі, азнаменавала важны этап ва ўдасканаленні вайсковай тактыкі і, у пэўнай ступені, ваеннай тэхнікі ВКЛ[3]. Па-трэцяе, увагу да Клецкай бітвы прыцягвае надзвычай неардынарная і супярэчлівая фігура яе галоўнага героя — князя Міхаіла Львовіча Глінскага. Надворны маршалак ВКЛ, фаварыт караля і вялікага князя Аляксандра Казіміравіча з'яўляўся, несумненна, найбольш яркай фігурай на палітычным алімпе ВКЛ пачатку стагоддзя. Пра яго хадзіла мноства чутак, нікому так не зайздросцілі, як па-еўрапейску адукаванаму князю Міхаілу. Па-чацвёртае, у свядомасці мясцовага люду бітва 1506 г. дагэтуль з'яўляецца адной з галоўных падзей гісторыі Клецка. Нарэшце, зварот да Клецкай бітвы быў у значнай ступені абумоўлены маімі асабістымі перажываннямі і ўспамінамі, якія бяруць пачатак у дзяцінстве. Ад старых людзей мне прыходзілася неаднаразова чуць пра жудасную бітву на Красным Ставе, што атрымаў сваю назву ад колеру крыві, якой напоўніліся воды ракі Лань. Цікавасць да гэтай падзеі падаграваў і той факт, што мая сям'я пражывала на вуліцы, якая калісьці насіла назву Красна-стаўскай (зараз Першамайская), а да самога Краснага Става можна было дайсці ад дома бацькоў за 10—15 хвілін. Пазней, у школьныя гады, калі я пачаў цікавіцца мясцовай гісторыяй, я даведаўся пра неардынарную асобу галоўнага героя бітвы — князя Міхаіла Глінскага. Мая цікавасць да Клецкай бітвы 1506 г. узмацнілася ва ўніверсітэцкія гады, калі я рыхтаваў дыпломную работу па гісторыі Клецка. Можна сказаць, што праз цікавасць да гісторыі ўласнага населенага пункта я атрымаў магутны стымул да вывучэння асобы князя Міхаіла Глінскага і бітвы пад Клецкам 1506 г. Нават на выбар мной тэмы дысертацыі, якая была прысвечана дыпламатычным адносінам ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай і Крымскім ханствам у 1480 — першай чвэрці XVI ст., можна глядзець праз прызму доўгатэрміновай цікавасці да бітвы пад Клецкам і асобы яе галоўнага героя.

[2] Pietkiewicz K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Poznań, 1995. S. 207.

[3] Herbst S. Kleck 1506 // Herbst S. Potrzeba historii, czyli o polskim stylu życia: wybór pism. T. 2. Warszawa, 1978. S. 230.

Па сутнасці, у кнізе два галоўныя героі: з аднаго боку — сама Клецкая бітва, а з другога — яе трыумфатар, князь Міхаіл Львовіч Глінскі. За час, які прайшоў з моманту бітвы, яны амаль з'ядналіся: калі гаворыцца пра Клецкую бітву 1506 г., згадваецца ў першую чаргу князь Міхаіл Глінскі; калі аповед ідзе пра Міхаіла Глінскага, у памяці ўзнікае вобраз бітвы. Дзеля таго, каб зразумець, чаму і як адбылося гэтае зліццё, неабходна было пільна зірнуць на тыя разнастайныя з'явы і падзеі, што папярэднічалі бітве. Мне прыйшлося звярнуцца да таго недалёкага мінулага (з пункту гледжання людзей пачатку XVI ст.), памяць пра якое яшчэ захоўвала пакаленне Клецкай бітвы 1506 г., каб высветліць, збег якіх знешнепалітычных абставінаў і акалічнасцей прывёў да гэтай бітвы. Гэта мінулае ахоплівала 40—50 гадоў і сваім пачаткам сягала 60—70-х гг. XV ст. — таго часу, калі знешнепалітычнае становішча ВКЛ ва Усходняй Еўропе пачало істотна пагаршацца, калі перад Ягелонамі паўсталі новыя выклікі ў выглядзе ваенна-палітычнага хаўрусу Маскоўскай дзяржавы і Крымскага ханства. Аднак чым больш мяне захоплівала даследаванне клецкіх падзей, тым больш мне хацелася яшчэ далей углыбіцца ў нетры гісторыі. Так паступова я дайшоў да крайняй мяжы, да якой распаўсюджвалася памяць людзей пачатку XVI ст. На маю думку, гэтую мяжу складалі падзеі 80—90-х гг. XIV ст. У сваёй працы я паспрабаваў паказаць, што перадумовы Клецкай бітвы 1506 г. трэба шукаць у грандыёзных палітычных канфліктах і войнах канца XIV ст., якія пакінулі глыбокі след у гістарычнай памяці і свядомасці наступных пакаленняў насельніцтва Усходняй Еўропы.

Разважаючы пра асобу і характар князя Міхаіла Глінскага, мне прыйшлося таксама закрануць праблему індывідуальнасці ў ВКЛ у XV—XVI стст. Нягледзячы на тое, што тагачасны чалавек быў цалкам паглынуты грамадою, якая вызначала яго тоеснасць і маральнае аблічча, вытокі індывідуальнасці ў Літве і на Русі неабходна шукаць менавіта ў гэтай эпосе. Прадстаўнікі вышэйшага духавенства, частка арыстакратыі і гарадской гандлёвай вярхушкі ўжо тады ўсведамлялі сваё паходжанне, сваю сацыяльную ролю і месца ў жыцці. Безумоўна, да ліку гэтых асоб адносіўся і князь Міхаіл Глінскі.

У сувязі з праблемай індывідуальнасці і каб адказаць на пытанне, чаму менавіта Глінскаму было суджана стаць галоўным героем бітвы 1506 г., я паспрабаваў стварыць умоўны гісторыка-псіхалагічны партрэт князя. Прыйшлося ўважліва і дэталёва прааналізаваць яго біяграфію, звярнуць асаблівую ўвагу на характар і выхаванне, даследаваць станоўчыя і адмоўныя якасці яго асобы,

прасачыць асноўныя этапы палітычнай кар’еры. У выніку я прыйшоў да высновы, што ў складаных абставінах лета 1506 г. сярод тагачаснага кіраўніцтва дзяржавы толькі Міхаіл Глінскі меў неабходную сілу волі, ваенна-палітычны талент і ўпэўненасць ва ўласных сілах, каб смела выступіць насустрач небяспецы. І, самае галоўнае, у гэтай справе яму не былі патрэбныя памочнікі і дарадцы, а сам ён не жадаў знаходзіцца ў падпарадкаванні якога-небудзь уплывовага велікакняскага вяльможы.

Кніга складаецца з чатырох раздзелаў. У першым разгледжана ваенна-палітычнае становішча ва Усходняй Еўропе на мяжы XV—XVI стст. Другі ўяўляе сабой палітычную біяграфію Міхаіла Глінскага да 1506—1508 гг. Апісанне жыцця Глінскага падаецца на шырокім фоне падзей ваенна-палітычнай і культурнай гісторыі Еўропы. Не абмінуў я і найважнейшыя падзеі таго часу ў ВКЛ, найбольш яркія палітычныя постаці дзяржавы Ягелонаў мяжы стагоддзяў. У даследаванні я паспрабаваў яшчэ раз узняць пытанне пра паходжанне роду Глінскіх, асвятліць пачатковы этап іх службы вялікім князям літоўскім. Таксама зроблена спроба рэканструяваць дзіцячыя і юнацкія гады героя, што засталіся па-за ўвагай яго біёграфаў. Мяне цікавіла сям’я і тое асяроддзе, у якім рос і выхоўваўся Міхаіл. Адсюль такая ўвага да персон яго бацькі — князя Льва Барысавіча, а таксама найбліжэйшых сваякоў, у першую чаргу, Храптовічаў.

У трэцім раздзеле аналізуецца гісторыя стварэння памяці пра Клецкую бітву 1506 г. Мяне цікавіла, як складваўся вобраз бітвы, а таксама яе галоўнага героя ў свядомасці сучаснікаў і нашчадкаў, якія этапы ў сваім станаўленні прайшоў, як трансфармаваўся на працягу стагоддзяў. Нарэшце, я паспрабаваў адказаць на пытанне, з якога часу бітва пачала замацоўвацца ў свядомасці жыхароў Клецка як галоўная падзея гісторыі горада. У выніку, пасля правядзення даследавання ў мяне былі ўсе падставы сцвярджаць, што вобраз бітвы пад Клецкам з’яўляецца гістарыяграфічнай канструкцыяй, на змест якой істотна паўплывалі палітычныя тэндэнцыі наступных часоў, інтарэсы асноўных гульцоў на палітычнай сцэне ВКЛ і Кароны.

У чацвёртым і заключным раздзеле я паспрабаваў рэканструяваць ход і характар бітвы. Дзеля гэтага мне прыйшлося даследаваць розныя аспекты падзеі: прыродны ландшафт Клеччыны ў Познім Сярэднявеччы, месца і час бітвы, тактыку і стратэгію дзеянняў праціўнікаў, спосаб і характар іх узбраення, маршруты войскаў. Гэта даследаванне можна было б назваць антрапалогіяй

бітвы, бо яно праведзена з выкарыстаннем метаду гістарычнай антрапалогіі. Даследаванне дазволіла зрабіць выснову, што ход бітвы істотна адрозніваўся ад таго вобраза, які замацаваўся ў пазнейшай гістарыяграфіі і свядомасці нашчадкаў.

У працы мне прыйшлося цытаваць мноства крыніц. Хочацца, каб праз гэтыя тэксты чытач пачуў галасы ўдзельнікаў і сучаснікаў бітвы, а таксама найбольш адукаваных прадстаўнікоў наступных пакаленняў, дзякуючы якім яе вобраз не згас, а набыў новыя фарбы. Гэтыя галасы гучалі на розных мовах: беларускай, латыні, польскай, нямецкай і інш. На розных этапах працы мне прыходзілася звяртацца да тых жа тэкстаў, неаднаразова паўтараць іх фрагменты, вяртацца да папярэдніх тэм. Гэта частка метаду майго даследавання, якая дазваляе лепей зразумець такую неардынарную падзею, як бітва пад Клецкам 1506 г.